www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 90 (3831)

15 лістапада 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

КАДРАТРУС

# Шапіру — у Мінск, магіляўчаніна Краўцова — у Гродна

Учора Аляксандр Лукашэнка прызначыў **Сямёна Шапіру** старшынёй Мінскага аблвыканкама, а кіравацъ Гродзенскай вобласцю паслаў дэпутата **Уладзіміра Краўцова.**

Сямён Шапіра — асоба ў краіне вядомая. Доктар эканамічных навук, прафесар. С 2008-га па 2010 год быў міністрам сельскай гаспадаркі. Пасля пасады міністра атрымаў крэсла кіраўніка Гродзенскай вобласці. Ёсць у ягонай працоўнай біяграфіі і іншыя пасады — і эканаміста ў саўгасе, і старшыні СКП, і гендырэктара агракамбіната, і дырэктара НДІ эканомікі і інфармацыі аграпрамысловага комплексу. На пасадзе старшыні Мінскага аблвыканкама ён змяніў Барыса





Батуру, якога А.Лукашэнка адправіў у адстаўку 8 лістапада.

Уладзімір Краўцоў апошнім часам працаваў у Магілёўскім райвыканкаме. У 2012 годзе стаў дэпутатам Палаты прадстаўнікоў. 28 жніўня яму споўнілася 60 гадоў. З біяграфіі Краўцова выцякае, што ягоны кар'ерны рост пачаўся з работы ў Магілёўскім гаркаме КПБ.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

## *Старт прэзідэнцкай выбарчай кампаніі — жнівень 2015-га*

Аб гэтым паведаміла старшыня ЦВК Беларусі **Лідзія Ярмошына.**

*"Жнівень 2015 года — гэта пачатак выбарчай кампаніі. А выбары павінны прайсці не пазней за 20 лістапада 2015 года",* — патлумачыла Лідзія Ярмошына.

Згодна з заканадаўствам, выбары прэзідэнта павінны прайсці не пазней за два месяцы, а выбарчая кампанія павінна пачацца не пазней як за пяць месяцаў да заканчэння тэрміну паўнамоцтваў дзеючага кіраўніка дзяржавы.

Лідзія Ярмошына нагадала, што інаўгурацыя Аляксандра Лукашэнкі прайшла 20 студзеня 2011 года.

*"Такім чынам тэрмін паўнамоцтваў мінае 20 студзеня 2016 года",* — растлумачыла старшыня ЦВК.

## *Святлана Алексіевіч узнагароджана прэстыжнай прэміяй*

Беларускую пісьменніцу адзначылі за кнігу "Час сэканд-хэнд". Французская прэмія медыя (Prix Medicis) была заснавана ў 1958 годзе. Яе ўручаюць штогод за раман ці апавяданне французскаму аўтару, які "яшчэ не вядомы шырокаму колу чытачоў, але надзелены несумнеўным арыгінальным талентам". У 1970 годзе да яе дадалася Прэмія Медычы за замежны твор, а ў 1985 г. — Прэмія Медычы за эсэістыку.

Кнігу беларускай пісьменніцы на французскую мову пераклала **Сафі Бенеша**. У перакладзе яна мае загаловак "La fin de l'homme rouge: Ou le temps du desenchantement" ("Канец чырвонага чалавека: час расчаравання").

ПОД ГРАДУСОМ!

## *В выходные ветер, дождь и снег*

По словам главного синоптика Республиканского гидрометеоцентра **Людмилы Паращук**, на предстоящих выходных через территорию Беларуси начнут перемещаться фронтальные разделы с Балтийского моря. *"Их влияние будет заметно в основном по северу Беларуси, где пройдут небольшие осадки в виде дождя и мокрого снега",* — отметила Людмила Паращук**.** В целом по стране температура воздуха ночью составит от минус 3 до плюс 2 градусов, днем в субботу — от 0 до плюс 6, в воскресенье — от 3 до 8 тепла.

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Порочные связи

**Эта история не беспрецедентная. Не хорошая и не плохая. Наоборот, обычная, но поучительная.**

**Был такой "красный директор" Анатолий Дмитриевич Тютюнов. Бывший сельский мальчик, выбился в люди, выучился, прошел по карьерной лестнице, не перескакивая через ступеньки, — от рядового инженера до директора завода. Хорошего директора. Который из обычного и ничем не примечательного предприятия сделал успешный, современный и очень известный завод.**

**Потом Тютюнов стал депутатом. И, как крепкий хозяйственник, искренне поддержал политику "твердой руки". То есть Александра Григорьевича Лукашенко. Когда депутаты — коллеги по Верховному Совету 13-го созыва попытались объявить Лукашенко импичмент, заявив, что президента надо остановить, потому что он ведет страну к правовому Чернобылю, Тютюнов не присоединился. Он наверняка считал этих отчаянных людей балаболами. Наверняка твердо верил, что они мешают главе государства работать, стране развиваться, экономике укрепляться. Он был слеп и глух, когда оппоненты Лукашенко ссылались на Конституцию, на законы, на мировой опыт. Он был абсолютно нем, когда депутатов призывали не допустить концентрации власти в одних руках, потому что ни одну страну это ни к чему хорошему не привело.**

**Анатолий Дмитриевич на стороне президента пересидел бурный 1996 год, перешел в Палату представителей, потом даже стал вице-премьером. Однако свой родной завод из поля зрения не выпускал, оставив на нем сына. Увлекся, как и положено людям, которые в Беларуси хотят что-то значить, хоккеем. Никогда и нигде не усомнился в правильности выбранного курса. Служил преданно и верно.**

**Но все-таки на должности вице-премьера долго не задержался: люди реального дела в нынешнюю команду, как правило, не вписываются.**

**Тютюнов был уволен за мелочь — за то, что не запустил вовремя спорной надобности целлюлозно-бумажный комбинат. Потом три года не мог вернуться на свое прежнее место — на завод. И все-таки выждал, высидел. Взялся с новыми силами за то, что знал и умел. Умело, по-хозяйски взялся. Предприятие, которое государство спешило сбыть с рук как неперспективное и второстепенное, стремительно рвануло вперед, созданный Тютюновым бренд зазвучал не только в Беларуси, но и во многих странах мира.**

**Лукашенко это отметил, наградив Анатолия Дмитриевича орденом Почета. А через пару месяцев началось…**

**ОБЭП, Госконтроль, прокуратура…. Говорят, Тютюнову даже довелось узнать то, о чем не хочется вспоминать. После этого его доля в уставном фонде акционерного общества стала значительно меньше.**

**В итоге Анатолию Дмитриевичу пришлось уходить с завода. "Ушли" и Тютюнова-младшего (сына), и других членов семьи. А на днях уже открытым текстом была дана команда — вернуть предприятие под контроль государства. То есть отобрать то, что Тютюнов создавал с расчетом на детей и внуков…**

**Конечно, эта история не вопиющая. Подобных за годы правления Александра Лукашенко случилось множество. Например, не раз бывало, что государство давало предпринимателю в долгосрочную аренду какой-нибудь заброшенный подвал, тот вкладывал деньги, делал ремонт, закупал оборудование… И как только все преображалось, ответственные люди сообщали: "Извини, дорогой, но такой хороший подвал получился, что теперь он нам самим нужен".**

**Так то подвал, мелочь! Что уж говорить про оживший в умелых руках частника колхоз-банкрот и тем более — про набравший обороты завод!**

**Причем если бы нашелся хитрец, который, как только подошло время ремонта, продал вам свою квартиру, подождал, пока вы все в ней обустроите, а потом явился с гордым уведомлением, что требует вернуть имущество обратно, вы бы такого умника спустили с лестницы. А вот когда государство возвращает себе ныне успешные заводы, которые были проданы и десять, и двадцать лет назад, некоторые даже аплодируют, поддерживают всей душой.**

**А если подумать… А если завтра государство признает, что мы все неправильно приватизировали свои квартиры и теперь их надо вернуть, потому как продаваться они будут по новой цене и на других условиях? Схема ведь одна и та же…**

**Если смотреть дальше своего носа, то можно задаться и другим вопросом. Придет к нам в страну какой-нибудь серьезный инвестор, чтобы самому и работать, и зарабатывать, и белорусам хорошую работу давать, если у него всегда есть "шанс" оказаться в следственном изоляторе и находиться там до тех пор, пока не подпишет "дарственную" в пользу белорусского государства?**

**Только купи-продай и придет. Чтобы быстренько срубить деньжат и вывести их в зарубежные банки. Поскольку мир устроен как-то так, что нет в нем желающих вложить свои деньги, наладить производство и потом отдать его черту лысому.**

**То есть аплодировать, конечно, можно. Правда, не видать нам при таком подходе ни достойных зарплат, ни достойных пенсий. Только бесконечный сериал "Кругом враги!" гарантирован.**

**Простые люди причинно-следственную связь между своим безденежьем и правовой разухабистостью главы государства не всегда понимают. Но вот Тютюнов… В 1996-м именно в эти дни решалась судьба страны, принималась Конституция, которая позволила президенту делать все, что придумается в его голове. На что тогда надеялся депутат и опытный директор Анатолий Дмитриевич Тютюнов? И на что надеется сейчас, когда Лукашенко фактически отбирает у него выстраданный, выпестованный, возрожденный "Керамин"?.. Неужели по-прежнему связи не видит?**

З НАГОДЫ

*Лешак ШАРЭПКА:*

# «Мы выступаем за тое, каб віз наогул не было»

*Учора пасол Польшчы ў Беларусі Лешак ШАРЭПКА традыцыйна сустрэўся з журналістамі з нагоды Дня незалежнасці Польшчы.*



## Аб беларуска-польскіх адносінах

— Беларуска-польскія адносіны залежаць ад стасункаў паміж Беларуссю і Еўрасаюзам, і апошнія тры гады гэтыя адносіны, можна сказаць, зайшлі ў тупік, — распавёў **Лешак Шарэпка.** — Мы разумеем, што Беларусь не выкарыстоўвае да канца магчымасці, якія ёсць, таму што Еўрасаюз — гэта самы вялікі рынак у свеце. І вельмі карысны рынак, калі думаць пра мадэрнізацыю эканомікі краіны.

Вельмі спадзяёмся, што беларускае кіраўніцтва выкарыстае прапанову актывізаваць работу і ў межах праграмы "Дыялогі аб мадэрнізацыі". Трэці год у гэтым плане таксама няма ніякіх зрухаў. Адным словам, мы гатовы ісці насустрач, але неабходна зацікаўленасць абодвух бакоў.

## Аб эканамічных стасунках

— Хачу падкрэсліць, што Беларусь для Польшчы — вельмі важны партнёр у эканамічным плане. На Усходзе — трэці партнёр пасля Расіі і Украіны. Па нашых звестках, за 8 месяцаў гэтага года польскі экспарт у Беларусь дасягнуў 1,5 мільярда долараў, гандлёвы абарот складае каля 2 мільярдаў долараў. Польшча для Беларусі, наколькі вядома, з'яўляецца шостым самым буйным эканамічным партнёрам. Так што ў нас ёсць велізарны патэнцыял для развіцця. Але, паўтаруся, ізноў жа павінна быць добрая воля бакоў.

## Аб візах

— Агульная мяжа — гэта наш шанц, а не праблема. Трэба лібералізаваць візавую палітыку. Мы выступаем за максімальнае спрашчэнне візавага рэжыму і нават за тое, каб віз у адносінах з Беларуссю наогул не было. Але ў гэтым плане не ўсё залежыць ад нас, таму што гэта павінна быць агульнае рашэнне краін Еўрасаюза.

А ўвогуле, у мінулым годзе мы выдалі беларусам 350 тысяч віз. У гэтым годзе за першае паўгоддзе выдадзена ўжо 180 тысяч віз. Уявіце сабе, што 3,5 працэнта грамадзян Беларусі маюць польскія візы. Гэта велізарны маштаб!

## Аб саміце "Усходняга партнёрства"

— У хуткім часе адбудзецца саміт "Усходняга партнёрства" ў Вільнюсе, куды запрошаны і беларускі бок. Магчыма, гэтая падзея дасць новы станоўчы штуршок ва ўзаемаадносінах. Але найперш Беларусь павінна сама быць зацікаўлена, каб паскорыць дыялог. А калі няма зацікаўленасці, дык што мы можам зрабіць?

Думаю, у Вільнюсе ў цэнтры ўвагі будуць пытанні, якія звязаны з Украінай, Малдовай, Грузіяй. Разумееце, розныя краіны рухаюцца ў еўрапейскім накірунку на розных хуткасцях. Беларусь — у канцы пелетона, хоць стартавыя магчымасці для ўсіх роўныя. Польшча будзе рабіць усё магчымае, каб уцягваць Беларусь у праграму "Усходняе партнёрства".

**Алесь СІВЫ.**

ИНИЦИАТИВА

## *День Крещения Руси — праздничный день в Беларуси?*

Святой синод Белорусского экзархата Русской православной церкви принял решение обратиться к Александру Лукашенко с просьбой сделать день Крещения Руси, который приходится на 28 июля, официальным выходным, придав ему статус государственного праздника, сообщил пресс-секретарь БПЦ протоиерей **Сергий Лепин.**

Такое решение было принято на очередном заседании Святого синода 12 ноября в Минске после того, как патриарший экзарх всея Беларуси, митрополит Минский и Слуцкий Филарет зачитал доклад, в котором подвел итоги празднования 1025-летия Крещения Руси.

*"Церковь и раньше обращалась к представителям государства по этому поводу, но никогда — на таком уровне",* — подчеркнул протоиерей Сергий.

По его словам, официальная просьба Святого синода пока не направлена в адрес главы государства.

Удивительно, почему Белорусский экзархат не обратился с просьбой сделать в Беларуси праздничным второй день Пасхи? В первые годы независимости Беларуси этот день был выходным в календаре.

И второе: нет ли в этой просьбе политической мотивации?

МАНІТОРЫНГ

# Валюта даражэе...

*Па выніках чарговых валютных таргоў на Беларускай валютна-фондавай біржы, якія адбыліся 14 лістапада, рубель знізіўся да трох асноўных валют. Курс долара вырас да 9280 беларускіх рублёў, еўра — да 12.490 рублёў, расійскі рубель — да 284 беларускіх.*



Нягледзячы на гэта, учора вялізных чэргаў жадаючых набыць валюту ля абменнікаў, якія наведала карэспандэнт "Народнай Волі", заўважана не было. Гэта тычыцца пунктаў абмену ў Мінску каля крамы "Акіян" і ў аддзяленнях "Беларусбанка" на праспекце Незалежнасці ад ЦУМа да плошчы Перамогі.

У абменніку "Беларусбанка" каля крамы "Оптыка" спыталася ў касіра:

**— Гляджу, што дзве жанчыны здалі вам валюту. А ці ёсць нейкія абмежаванні, каб яе набыць?**

— Ды не, колькі вам трэба?

**— Я папросту хацела высветліць, ці ёсць ажыятаж. Пішуць жа на некаторых сайтах, што нібыта праблема цяпер набыць валюту. Можа, яшчэ не вечар?**

— Ды не. Бывае, што пенсіянеры набываюць патроху хто 100, а хто — 50 долараў, як атрымаюць пенсію. Бывае, што тры-чатыры чалавекі запар набываюць. Але вось здаюць хто 20 долараў, хто 10 еўра. Шмат не здаюць, у асноўным драбяза. Мала хто прыходзіць і просіць абмяняць на беларускія адразу, напрыклад, 500 долараў. Але пакуль штурму ніякага няма.

**Дар'я СОЛТАН.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## *Нацбанк: «Лухта абсалютная!»*

Нацыянальны банк Беларусі нарэшце пракаментаваў чуткі пра тое, што ў краіне могуць быць уведзены абмежаванні на абарачэнне валюты ў краіне.

— Лухта абсалютная! — заявіў агенцтву "Інтэрфакс-Захад" начальнік упраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка **Аляксандр Цімашэнка.** — Любы разважны чалавек разумее, што ў краіне з адкрытай эканомікай, ва ўмовах Мытнага саюза і фарміравання Еўразійскага эканамічнага саюза рэалізацыя такіх забаронных мер проста немагчыма.

Народная Воля http://www.nv-online.info
15 ЛІСТАПАДА 2013 г.

ПРАФАНАЦЫЯ

# Палітыканства абаронцаў Астравецкай АЭС

*Менавіта ў той дзень, калі дырэкцыя Астравецкай АЭС заявіла, што пачынае асноўны этап будаўніцтва станцыі, за авальным сталом у канферэнц-зале "Прэзідэнт-гатэля" сабралася невялічкая група людзей. Хоць мерапрыемства называлася гучна — "Прэзентацыя праекта "Грамадскі маніторынг уздзеяння Беларускай АЭС на навакольнае асяроддзе". Справа ў тым, што па ўсіх міжнародных правілах праект будаўніцтва АЭС павінны быць ацэнены грамадскасцю.*

Што да шырокай беларускай грамадскасці, то менавіта яе прадстаўнікоў на прэзентацыі якраз і не было. Затое быў адзін госць з Расіі і два чалавекі з Літвы. І хаця яны прадстаўлялі розныя краіны, іх малавядомыя арганізацыі аб'ядноўвала слова "міжрэгіянальны". У першым выпадку гэта Міжрэгіянальны грамадскі экалагічны рух "Ока" з невялікага горада Мурама ў асобе **Авіла Хасіева**, у другім — Міжрэгіянальны інстытут рэгіянальнага развіцця і дэмакратыі з дырэктарам **Віргініюсам Шмігеліскасам** і яго намесніцай **Віргініяй Нашленене**. Мерапрыемства, як вы здагадаліся, арганізаваў беларускі бок, а калі дакладней — старшыня "Экалагічнай ініцыятывы" **Юрый Салаўёў.** Нагадаем, што імя гэтага чалавека грамадскасць пачула літаральна некалькі дзён таму — менавіта Салаўёў стаў **"лаўрэатам" антыпрэміі беларускіх эколагаў "За імітацыю дзейнасці"**.



Даклад Авіла Хасіева выклікаў нямала пытанняў прысутных, але дыскусіі не атрымалася, паколькі спадар Салаўёў метадычна нагадваў пра рэгламент. Пры гэтым ён горача запэўніваў усіх прысутных, што атамныя станцыі заўсёды небяспечныя і іх трэба будаваць.

*"Яны там, у Фукусіме, начудзілі! Але ці можна гэта параўноўваць з нашымі расійскімі станцыямі? Ды ў іх нават дзверы там былі з пластыку. Вось вада іх і павыбівала, калі ўсё пачалося. Эх, не ўмеюць яны змагацца з пазаштатнымі сітуацыямі! Нашы б спецыялісты там адразу ўсё зрабілі як трэба. Узялі хаця б і бочкі якія падклалі, каб вада не лілася..."* Выступленне эколага з Мурама глыбінёй вывучэння праблемы не бліснула. Хутчэй гэта былі агульныя фразы. Ён раіў беларускім калегам, перш чым пачаць назіранне за станцыяй, прадэманстраваць "сваю павагу да мясцовай улады". Пасля гэтага раіў размаўляць з прадстаўнікамі грамадскасці, прычым лепш гэта рабіць у маладзёжным асяродку: маўляў, маладзёны больш адкрытыя і шчыра раскажуць пра ўсе праблемы. Для нагляднасці былі паказаны слайды. Напрыклад, спортзала ў школе, дзе на ўроку фізкультуры стаялі вучні прыкладна 7-га класа, а побач з імі — дакладчык. Прысутныя ледзь хавалі ўсмешкі. Але калі выступоўца заявіў, што для забеспячэння бяспекі станцыі ні ў якім выпадку нельга "*браць гастарбайтараў з Азіі на будаўніцтва, а то панабудуюць там*", стрымацца змаглі не ўсе. Напрыканцы Алан Хасіеў падзякаваў за тое, што яго запрасілі ў Мінск: *"Мне спадабаўся ваш чысты горад. Я з горада Мурама, а там, як вы ўсе, напэўна, ведаеце, "жыў і тварыў" Ілля Мурамец. Дык вось я хачу ўручыць ікону Святога Іллі Мурамца нашаму гаспадару".* Гаспадаром ён называў Юрыя Салаўёва, які і атрымаў падарунак.

З літоўскага боку Віргінія Нашленене прачытала даклад на тэму "Перспектывы функцыянавання Ігналінскай АЭС да 2009 года ў святле экалагічнага падыходу". Што ж тычыцца нашай АЭС, то спадарыня Нашленене толькі выказала спадзяванне, што беларуская АЭС будзе небяспечная і яе праца ніяк не адаб'ецца на здароўі літоўскіх грамадзян.

І спадарыня Нашленене, і яе начальнік спадар Шмігеліскас на пытанне, ці ведаюць яны іншых беларускіх эколагаў, акрамя Юрыя Салаўёва, далі адмоўны адказ. Пытанне аб тым, ці ведаюць яны пазіцыю МЗС Літвы па пытанні будаўніцтва АЭС, выклікала ў іх збянтэжанасць.

Ніводнага з незалежных беларускіх эколагаў на гэты "круглы стол" не запрасілі. Адказны сакратар Грамадскай экалагічнай экспертызы **Таццяна Новікава** кажа: *"Літоўская грамадскасць (а гэта ўсе экалагічныя грамадскія арганізацыі) ужо некалькі гадоў выступае супраць будаўніцтва Астравецкай АЭС. Яны зрабілі з гэтай нагоды шмат заяў і арганізавалі шэраг акцый пратэсту. У Вільнюсе грамадскасць не раз пікетавала беларускае пасольства з патрабаваннем спыніць будаўніцтва АЭС. Апошні пікет быў у жніўні гэтага года. Супраць Астравецкай АЭС выступае не толькі літоўская грамадскасць, але і афіцыйная Літва, аб чым сведчыць шэраг нот літоўскага МЗС. Але я ніколі не чула, каб тыя літоўцы, якіх запрасіў Салаўёў да сябе на "круглы стол", займаліся праблематыкай АЭС. Магчыма, яны ёй займаліся таемна, але тады гэта не грамадская дзейнасць, а нешта іншае".*

У той час, калі адбываўся "круглы стол", прынцыповыя беларускія эколагі накіравалі ў Міністэрства па надзвычайных сітуацыях сумесную заяву, у якой змясцілі вынікі даследавання **FlexRISK** аўстрыйскага Універсітэта прыродных рэсурсаў і прыкладных навук аб жыцці (BOCU). Згодна з даследаваннем, цяжкая пазапраектная аварыя на адным з рэактараў Астравецкай АЭС можа прывесці да забруджвання радыеактыўным цэзіем-137 у колькасці, небяспечнай для сельскай гаспадаркі і для здароўя людзей (10 і 100 кюры на кв.км) не толькі ў 30-кіламетровай зоне каля АЭС, але і на тэрыторыі ў радыусе больш за 300 кіламетраў, якая можа ўключаць Мінск, Віцебск і Полацк. Гэтыя дадзеныя значна больш трывожныя, чым заяўляе афіцыйны Мінск, сцвярджаючы, што беларускай сталіцы нічога не пагражае нават тэарэтычна. Згодна з афіцыйным дакладам, у якасці ахоўных мер у выпадку пазапраектнай аварыі рэкамендуецца ёдапрафілактыка ў радыусе 25 км ад рэактара на ранніх этапе аварыі і абмежаванне на спажыванне некаторых забруджаных прадуктаў харчавання. Хаця, на думку аўстрыйскіх экспертаў, месца для беларускай АЭС выбралі такое, што могуць спатрэбіцца планы эвакуацыі Мінска і Вільнюса.

Што і казаць, з боку Юрыя Салаўёва былі наладжаны не нейкія сур'ёзныя, навукова абгрунтаваныя слуханні, спрэчкі-дыскусіі, а чарговая піяр-акцыя, ад якой патыхае самай сапраўднай прафанацыяй. І не дзіўна, што гэтую прафанацыю падхапіла Беларускае тэлебачанне, якое прадставіла гледачам малакалькасную сустрэчу ў "Прэзідэнт-гатэлі" як мерапрыемства вялікай важнасці.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ПАЗІЦЫЯ

# Канфлікт пакаленняў

*У дэмакратычным асяродку паступова разгортваецца дыскусія наконт таго, якую стратэгію трэба абраць апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Дыскусія толькі пачынаецца, але падобна на тое, што наспявае канфлікт пакаленняў.*

**Яўген БОЙКА, прадстаўнік "Магілёўскай адукацыйнай ініцыятывы":**



— Плошча ў рамках Канстытуцыі — ніякіх барыкад, ніякіх агрэсіўных дзеянняў. Увесь цэнтр горада заняты людзьмі, якія нічога не робяць, нікуды не ідуць, ніякіх шэсцяў, ніякіх захопаў тэлевежаў. І — спіс канкрэтных патрабаванняў да ўлад. Вось да чаго мы павінны рыхтавацца.

Рыхтавацца не да прэзідэнцкіх выбараў, а да чарговай Плошчы, паколькі іншага спосабу дабіцца грамадзянскіх правоў у нашай краіне няма.

**Зміцер ДАШКЕВІЧ, былы палітвязень:**

— Найвялікшая праблема апазіцыі — неадольная непаслядоўнасць: у словах, ва ўчынках, у справах. Заклікаюць на Плошчу, ірвуць чыісьці партрэты, нешта крычаць, надзімаюцца, а даходзіць да справы — сікаюць у падгузкі і прама ў аўтазаках пішуць просьбы аб памілаванні...

У беларускім грамадстве вельмі вялікі пратэстны патэнцыял. Але чаму людзі не ідуць за гэтымі лідарамі? Бо не вераць ім! У 2001 годзе падманулі, у 2006-м — падманулі, у 2010-м — падманулі. А зараз што гэтыя лідары будуць казаць людзям? Зноў клікаць на Плошчу? Дык кожны плюне мне і любому з лідараў у твар і будзе мець маральнае права на тое. Што вы зрабілі за гэтыя 20 гадоў? Суцэльны падман! Я кажу непапулярныя рэчы, за якія на мяне многія пакрыўдзяцца. Але трэба, каб гэта хтосьці сказаў. На Плошчы-2010 зняславіліся ўсе! І цяпер тыя, хто раз за разам здраджваў сваім прыхільнікам, зноў прадстаўляюць беларускую апазіцыю? Хто ім паверыць? Ніхто!

Сказаў — зрабі. Не можаш зрабіць — не кажы і не рабі. А цяпер я зноў назіраю прафанацыю: ствараюцца нейкія кааліцыі. Нават я ў турме, чытаючы кожны выпуск "Беларусы і рынак", "Белгазеты", "Народнай Волі" і "Нашай Нівы", не мог зразумець, што за арганізацыі ўваходзяць у гэтыя кааліцыі. Для чага гэтая прафанацыя? Я ніколі не пайду за гэтымі людзьмі і нікому не раю ісці падпісвацца за іх.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ЗА РУЛЁМ!

# Ці выйдуць на вуліцы аўтааматары?

***З 2014 года ўрад хоча абавязаць уладальнікаў аўто плаціць транспартны падатак.***



Днямі намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення бюджэтнай палітыкі Міністэрства фінансаў Беларусі **Алег Селіверстаў** прадставіў у парламенце прапановы ўрада па падатковай палітыцы на 2014 год. Высветлілася, што ідэя браць з аўтааматараў падатак на транспартны сродак, пра якую нашы чыноўнікі казалі апошнія некалькі гадоў, стане рэчаіснасцю. Алег Селіверстаў заявіў, што з 2014 года ў Беларусі будзе ўведзена дзяржпошліна на доступ аўтамабіля да дарожнага руху. Яе памер складзе ад 1 да 25 базавых велічынь у год. Разавы плацёж, заявіў чыноўнік, "будзе залежаць ад вагі аўтамабіля і выплачвацца незалежна ад таго, ці ідзе гаворка пра легкавыя або грузавыя аўтамабілі".

Зразумела, што незадаволеных новым падаткам будзе шмат. Сёння ў Беларусі каля 3 мільёнаў уладальнікаў аўтамабіляў, сярод іх нямала і пенсіянераў. *"Аўтамабілісты — народ вельмі цярплівы, але мяркую, што знойдуцца людзі, якія самаарганізуюцца. Хай урад чакае пратэстаў і актаў непаслушэнства!* — заявіў кіраўнік Асацыяцыі ўладальнікаў і кіроўцаў аўтамабіляў **Алег Маркевіч.** — *Мы паставілі на ўлік машыны, заплацілі ўсе зборы, мытныя пошліны, за пастаноўку на ўлік, за картку тэхагляду... Мы будзем пратэставаць, рыхтаваць іскі ў суд, выкарыстоўваць усе сродкі. Не трэба выпрабоўваць цярпенне беларусаў".*

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ПАДЛІЧЫЛІ

## *Дзяржава атрымае 1 трыльён рублёў*

Паводле ацэнак Міністэрства фінансаў Беларусі, увядзенне аўтамабільнай дзяржпошліны дазволіць у 2014 годзе прыцягнуць у даходную частку бюджэту 1 трыльён рублёў.

*"Парадку 1 трыльёна мы плануем атрымаць ад гэтай пошліны",* — заявіў намеснік міністра фінансаў **Максім Ермаловіч** учора ў парламенце, удакладніўшы, што "спаганяцца гэты збор будзе ў час праходжання тэхагляду". Такая лічба, напэўна, атрымалася з улікам таго, што ў 2014 годзе, па словах Ермаловіча, базавая велічыня ў Беларусі можа быць павялічана да 150 тысяч рублёў.

ДИПКУРЬЕР

## *В Турцию без визы?*

*Безвизовый режим с Турцией может заработать уже весной 2014 года, сообщил первый заместитель министра внутренних дел Валентин Михневич.*

13 ноября Палата представителей ратифицировала соглашение с Турцией о реадмиссии, 24 октября — о безвизовом режиме. Ратификация этих двух соглашений сторонами позволит гражданам без получения виз посещать соответствующие страны. Соглашение предусматривает возможность безвизового порядка въезда, выезда, транзита и временного пребывания граждан одной стороны на территории другой при условии, что продолжительность их непрерывного пребывания на территории другой стороны не превышает 30 дней с даты въезда. При этом общая продолжительность пребывания граждан на территории другой стороны не должна превышать 90 дней в течение года с даты первого въезда.

Сегодня виза в Турцию стоит для белорусов 20 долларов. Получить ее можно непосредственно на турецкой границе.

ЭКАНОМІКА

## *Больш за ўсіх зарплаты раслі ў будаўнікоў*

За 9 месяцаў гэтага года, канстатуюць спецыялісты Мінэканомікі, заработная плата ў Беларусі вырасла на 18,7%. Пры гэтым у будаўніцтве рост рэальнай зарплаты склаў 33,9%,

у сельскай гаспадарцы, паляванні і лясной гаспадарцы — 23,2%;

у гандлі — 22,4%;

на транспарце і ў сувязі — 21,5%;

у прамысловасці — 17,4%.

"Па-ранейшаму захоўваецца значны разрыў у тэмпах росту прадукцыйнасці працы і рэальнай заработнай платы — 16,4 працэнтнага пункта ў студзені—верасні 2013 года", — адзначаецца ў аглядзе Мінэканомікі.

SOS!

## *В Минске не хватает воспитателей*

Вакантных ставок в детских садах становится все больше и больше. Если в начале года насчитывалось 556 вакансий воспитателей, то уже 1 сентября столичные детсады нуждались в 908 таких сотрудниках. Несложно догадаться, в чем причина кадрового дефицита, — в катастрофически низких зарплатах. В настоящее время воспитатель детсада зарабатывает порядка 2,6—2,7 миллиона рублей, а его помощник — всего 1,5 миллиона. Как прожить на такие деньги?! Разве это адекватная оценка труда воспитателя?!

Вообще, ситуация с зарплатами в сфере образования — аховая. За 9 месяцев 2013-го номинальная начисленная среднемесячная зарплата работников образования составила 3 млн 357 тыс. рублей. Это достигает всего лишь 60,3% от уровня зарплат в промышленности. В сентябре, после обещанного повышения зарплат, учителя в среднем заработали всего лишь 4 млн 142 тыс. рублей, это даже не достигает пресловутых 500 долларов.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЗАЛАТЫЯ РАДКІ



*Адзінай мэты не зракуся,*
*І сэрца мне не задрыжыць.*
*Як жыць — дык жыць для Беларусі,*
*А без яе — зусім не жыць.*

**Ларыса ГЕНІЮШ.**

У СОСЕДЕЙ

# Украина берет паузу?

***Наша соседка на пороге принятия судьбоносных стратегических решений. Какой же дорогой она пойдет? Переступит ли "европейский порог" или закроет дверь в Европу и развернется в противоположную сторону?***

Скорее всего ситуация с подписанием соглашения об ассоциации между Украиной с ЕС в ближайшие дни останется в подвешенном состоянии. Интрига сохранится до последнего, до дня открытия саммита государств "Восточного партнерства" Европейского Союза в Вильнюсе 28—29 ноября.

Сейчас, впрочем, как и практически весь последний год, идет геополитический торг. Торг между Украиной и ЕС, ЕС и США, а также между Украиной и Россией. Подписание соглашения об ассоциации между Украиной и Европой на первый взгляд стратегически верное решение, сулящее определенные преференции в будущем. Но выгода придет не сразу, а через достаточно длительный срок. В первую очередь, конечно, выиграет украинский потребитель. Требования к качеству товаров и услуг ужесточатся, конкуренция резко возрастет, оживится импорт недорогих и качественных товаров из Европы. А вот украинским производителям это добавит головной боли, в первую очередь в виде сокращения прибылей. Но это не главная проблема.

В случае подписания соглашения уже на следующий день могут возникнуть достаточно серьезные проблемы с экономикой. И эти проблемы Украине создаст президент и правительство Российской Федерации. Более 50% украинского экспорта приходится на страны Таможенного союза. А Россия грозит закрыть эти рынки для украинских производителей. Уже сейчас, например, крупнейший украинский производитель и экспортер кондитерских изделий корпорация "РОШЕН" вынуждена сокращать производство и увольнять своих сотрудников из-за того, что Россия ввела запрет на ввоз ее продукции.

В случае подписания соглашения об ассоциации с ЕС Россия грозит разрывом торговых отношений с Украиной, отказом от всех экономических преференций, отказом от зоны свободной торговли, отказом от украинских товаров, отказом размещать в Украине "чувствительные технологии", что означает конец украинской промышленности: космической, авиационной, судостроительной, атомной. И, как следствие, Россия прогнозирует дефолт в Украине, рост безработицы и отток трудоспособного населения из страны, падение курса гривны и т.д. Главной политической угрозой для Украины в России называют потерю государственного суверенитета и неспособность самостоятельно принимать политические и экономические решения. Можно подумать, если Украина войдет в Таможенный союз с Россией, Казахстаном и Беларусью, это не приведет к потере ее суверенитета.

Конечно, подписание соглашения об ассоциации между ЕС и Украиной значительно усложнит перспективу геополитических притязаний России на постсоветском пространстве, поставит жирный крест на вхождение Украины в Таможенный союз. В перспективе это грозит уходу Украины из цепких объятий восточной соседки. С другой стороны, Россия уже предлагает не только кнут, в последнее время появился еще и пряник в виде пересмотра газовых соглашений, еще большего открытия рынков России, размещения заказов на предприятиях Украины, предоставления финансовой помощи, инвестиций в украинскую экономику и т.д.

Так в чем же камень преткновения, почему соглашение об ассоциации под угрозой? Причина не в отказе Украины унифицировать свое законодательство по образу и подобию цивилизованного демократического мира. Как раз с этим проблем нет. Украина уже давно идет по пути унификации своих законов. Осталось изменить буквально несколько законов, и их изменят, работа в этом направлении идет. Уже 19 ноября они могут быть приняты парламентом Украины. Камень преткновения — дальнейшая судьба Юлии Тимошенко. Некоторая часть политического истеблишмента Европы активно лоббирует свободу экс-премьера Украины. Причем эти требования постоянно меняются. Сначала было требование амнистии Ю.В.Тимошенко, в сентябре этого года выдвигалось требование выпустить ее на лечение за границу. В октябре 2013 года дается новая вводная: освобождение и полная политическая реабилитация Юлии Владимировны.

Позиция Украины достаточно прозрачна. Страна задекларировала путь на европейскую интеграцию, законодательство практически полностью будет унифицировано согласно требованию западных стран, произошли серьезные изменения в области свободы слова и средств массовой информации, действия органов государственной власти стали более прозрачными и открытыми, внедряются европейские стандарты, и Украина готова нести серьезные убытки для своей экономики в связи с подписанием соглашения об ассоциации. А выдвижение дополнительного условия в виде освобождения Тимошенко не совсем приемлемо по украинскому законодательству. Украина объясняет европейским политикам так: чтобы удовлетворить эти требования, нужно выполнить всего три условия. Во-первых, Ю.В.Тимошенко должна отбыть половину назначенного ей судом срока. Во-вторых, она должна написать прошение о помиловании. И в-третьих, Юлия Владимировна должна возместить убытки в размере 189,5 млн долларов США, назначенных судом Украины. Эти три условия пока не выполнены.

Интересно то, что если бы Тимошенко победила на президентских выборах в 2010 году, то благодаря действиям Юлии Владимировны по внедрению кабальных газовых контрактов с Россией Украина оказалась бы полным экономическим банкротом. И на диктуемых Российской Федерацией условиях уже стала бы членом Таможенного союза. Попала бы в полную экономическую и политическую зависимость от своей восточной соседки.

Исходя из вышеперечисленного, трудно сказать, подпишет или не подпишет Украина 29 ноября соглашение об ассоциации с Европейским Союзом. Ситуация может оказаться в подвешенном состоянии до следующего саммита — 2015 года. Не исключено, что Украина возьмет паузу, которая может стать выходом в сложившейся ситуации. А через два года обстановка вполне может кардинальным образом измениться. Будет совершенно другая политическая реальность.

О том, зачем некоторым европейским политикам необходима полная реабилитация Тимошенко накануне украинских президентских выборов 2015 года, почему американцы не выдвигают требование освобождения Юлии Владимировны и кто пытается поставить крест на развитии газодобывающей отрасли нашей южной соседки, я расскажу в одном из ближайших номеров "Народной Воли".

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент "Народной Воли" в Украине.**

*Киев.*

